*НІНА ШКЛЯРАВА*

# МАЯ ВЁСКА

*

Ніна Шклярава нарадзілася 10 снежня 1947 года ў вёсцы Пракопаўка Гомельскага раёна. Скончыла Цярахоўскую сярэднюю школу. Працуе ў Гомельскім Палацы піянераў і школьнікаў.

Вершы Н. Шкляравай друкаваліся ў часопісах «Работніца і сялянка», «Беларусь», «Маладосць» і ў газетах.

«Мая вёска» — першы зборнік маладой паэтэсы.

**Шклярава Н.**

Мая вёска. Вершы. Мн., «Беларусь», 1971.

56 с. 3500 экз. 12 к.

Вершы маладой паэтэсы вызначаюцца шчырасцю начуццяў, любоўю да чалавека працы, да яго духоўнай прыгажосці.

7-4-3 / 163-71 Бел2 / Ш 66

## БЕЛАРУСЬ

Беларусь — мая мара,
Мая вера адна,
Беларусь мая — мама,
І святло, і вясна.

Ці то травы у росах
Так блішчаць цеплынёй,
Ці то маміны косы
Я кранаю рукой?

Ці то зоры уночы
Свецяць так для мяне,
Ці то маміны вочы
Усміхаюцца мне?

Ці то рэху зямля
Песні дорыць свае,
Ці то мама мая
Калыханку пяе?

## РОДНАЯ МОВА

Мова мая!
Мой ратунак!..
Калі немаўляткай была —
Твой першы, найлепшы гатунак
З грудзей я матулі піла.

Гуляла ты ў ладачкі-ладкі,
Гудзела гліняным пеўнем...
Вялікі то быў пачатак
Запеву майго, напэўна.

Я чула, як пысаю цёлка
Расу на пялёстках студзіла.
Звінелі на промнях вясёлкі,
Садзіліся птушкам на крылы.

Сабраць бы ўсе фарбы і гукі
У адну непаўторную гаму!..
Да сонца працягваю рукі
І ў голас гукаю: «Мама!..»

* * *

Хай некаторыя глядзяць з усмешкай
І безнадзейна галавой ківаюць,
Маўляў, бацькоўскія пазарасталі сцежкі
І мову матчыну ўжо забываюць.

Мне крыкнуць хочацца такім няверцам:
— Ідзіце прэч!
Нярушце больш ніколі
Вы мовы той,
якая ў самым сэрцы!
Не пасыпайце маю рану соллю...

* * *

Нясе мяне нялёгкая —
Машына грузавая!—
Ў Пракопаўку далёкую,
Што дзень і ноч гукае.

Яна пад сэрцам стукае
Даспелымі арэхамі.
Матуля там унукаў
Чакае, як уцеху.

Чакаць ёй доўга прыйдзецца —
Не замужам дачка яшчэ...
А маці ўнукі трызняцца...
Дык значыць — дачакаецца!

## РУКІ

Рукі бываюць розныя:
Цёплыя, быццам праменні,
Рукі бываюць з розумам,
Могуць дарыць летуценні.

Рукі хірурга — вера
У радасны свет жыцця.
Рукі матулі — мера
Вечнага пачуцця...

## МАЦІ

Печ запаліла ты ў хаце,
Дымком твае рукі пахнуць.
Дранікі ў місцы.
— Наце!
Ешце хутчэй, прачахнуць,—

Кліча матуля снедаць.
Мне бы на гэты вокліч
Ляцець, як ляцяць непаседы,
А я адказала: «Не хачу!»

Мне б да рук тых ласкавых
Прытуліцца шчакою
Ды ў печы рухава
Папрацаваць чапялою.

Мне б не будзіць яе раненька,
Калі спіць яна соладка,
А самой напячы тых дранікаў
І наварыць бы соланкі.

Самой бы на стол паставіць
Соланку з цёплай парай.

А насля бы яшчэ засмажыць
Цыбуліну з салам,

Выцерці б рукі, як маці,
Аб фартух квяцісты...
— Пахне сняданкам у хаце!—
Маці скажа ўрачыста.

* * *

Я нарадзілася ў лесе
Сцяблінкай кволай, жывой.
Назвалі мяне Алесей,
Я вырасла сярод хвой.

Колькі хацеў — верас сіні
Піў маю сінь вачэй.
У мажнай дрыготкай асіне
Кроў і мая цячэ.

А ў гэтай бялюткай бярозе
Колер ад цела майго,
Такія шаўковыя косы
У нашага рода ўсяго.

Умельства рослыя сосны
Дзе маглі пераняць?
Такія тугія косы,
Як маці мая, навіваць?

Таму я сюды імкнуся,
Нібы ў харомы свае.
А конікі з траў і кусцікаў
На плечы скачуць мае...

## СМАГА

П'ю ваду я з калодзежа зноў
І гляджу, як, сабраўшы сілы,
Цягне трактар зару дамоў,
Дзе жыве аднагодак мілы.

За рулём ён штодня сядзіць.
Дзе араў — можна добра ўбачыць:
Праразаецца ўпарта з зямлі
Жыта з зерняў, як зубы ў дзіцяці.

*Мацярынства* святое зямлі
І адчайнасць вялікіх пачуццяў,
Нібы шчодрасць людской цеплыні,
У юнацтве знаходзіць сутнасць...

Ціха-ціха ў блакіце было.
Поўня — сподак, а неба — крыніца.
П'ю з яе больш як дваццаць гадоў
І ніяк не магу напіцца!

## МАЯ ВЁСКА

Дзе ты,
дзе ты, мая вёска?
На зямным
вялізным шары
Ты,
як з кветачкі пялёстак,
Загубілася ў абшары.

Але я знайду заўсёды,
Нібы ўзор твой вышываны,
І гусіныя чароды,
І блакітныя туманы.

Я зайду ў алешнік ліпкі,
Пафарбую рот малінай.
Там растуць малыя ліпкі
За красуняю рабінай...

Запляту бярозам косы,
Упляту рамонкі-кветкі...
І прамень заўважу босы,
Зіхатлівы за палеткам...

І заўважаць мае вочы —
Ты,
    як матчынай рукою,
Ахінулася з паўночы
Цёплай рэчкай Церухою.

Лёс дзявочы —
                мая вёска!..
На зямным вялікім шары
Ты,
    як з кветачкі пялёстак,
Не згубілася ў абшары!

* * *

Збіраю шолахі
Вятроў і траў,
І ліўняў подыхі,
Што май прыслаў.
Раку з бяздоннай
Глыбінёй
Мяшаю з зорнай
Вышынёй...

Радкі, як пчолка,
Свае збіраю,—
Што выйдзе толькі,
Пакуль не знаю...

* * *

Мне не так ужо многа і трэба
Дзеля ўзлёту на сёмае неба.
Дайце толькі мне ўзлёт жураўліны,
Дайце толькі мне клёкат буслінны,
Дайце ўсмешку каханых вачэй
Ды красу беларускіх начэй...

* * *

Дачка селяніна — я змалку сялянская,
З дзяцінства ў пракудах упартай была.
Калі ж частавалі лазоваю ласкаю —
Мой крык у другім канцы чулі сяла.

Як стала дарослай — дарогі каменні,
Здзіраючы скуру, кацілі пад ногі...
Ды ўсё ж я маўчу, не згінаю калені...
Ніхто і не бачыць маёй перамогі!

* * *

Здаецца мне новаю вёска —
Бы ў сінюю палоску.
Ці гэта ад лесу сіняе неба,
Ці гэта ад неба лес сіні?

Ці пад нагамі не снег,
                                а неба?
Ці мне ўжо здаецца?
Ці гэта так трэба?

Здаецца мне новым сэрца,
Як веснавое дрэўца.
Ці гэта ад шчасця майго вясна,
Ці ад вясны маё
                        шчасце?

## ДАБРАТА

Жыццё мяне не перайначыла,
Бо ад бацькоў сваіх у спадчыну
Я маю толькі дабрату
І тую трачу на ляту.

Без дабраты няма кахання,
І новага няма світання,
І подзвігаў, і суму трохі,
Нянавісці, і мар высокіх.

Жыццю так дабрата патрэбна,
Як шчасце, воля, яснасць неба...
Я аддаю яе, мой брат,
Каб не вярнуць ужо назад.

## Я ТАДЫ НЕ МАГУ НЕ ПІСАЦЬ...

Калі маму сваю пацалую
І ад шчасця пачну спяваць,
Калі радасць сваю хачу я
Людскім сэрцам да кроплі аддаць,—
Я тады не магу не пісаць!

Я тады не магу не пісаць,
Калі сэрца ад крыўды баліць,
Калі плача яно і крычыць,
Калі слёзы хоча абмыць
На заплаканым твары В'етнама,—
Я тады
не магу
маўчаць!

## РОДНАЯ ХАТА

Помню: хата з сіваю страхою
Закурыла ў цішыні садоў,
З коміна дым сцелецца дугою
З пахам перасмажаных грыбоў.

Яблыня зялёнаю хусцінкай
Ахінула плечыкі свае,
Павуцінка падае сняжынкай,
З яблыкам знікае у траве.

І гукае маці ўжо вячэраць...
Чуцен смех дзіцячы, галасы.
Пасля гульняў з апетытам шчэ раз
Бульбы той з грыбамі пад'ясі.

Зорачкі-гарэзы, як смяшынкі,
Весела мігаюць ліхтару.
З палявання кот ідзе сцяжынкай,
Вусы закруціўшы угару.

На другія казкі, хоць на дзесяць,
Я не памяняюся з маёй,
Дзе бяроза белая і месяц,
Хата з саламянаю страхой...

## ПЕСНЯ

Ой, лясы шумлівыя,
Ой, гаі зялёныя!
Як жа да вас
туліцца
Сэрца і душа...
Выйду, адзінокая,
Гляну,
як навокала
Цягнецца
да сонца
Ўвесь зямны абшар.

Ой, лясы шумлівыя,
Ой, гаі зялёныя!
Лёгкі крылаў-голляў
Ваш магутны ўзмах.
Беражна нясіце,
Як бохан на лісцях,
Сонца залатое
На сваіх руках.

Ой, лясы грыбныя,
Бары медзяныя,

Сосны загарэлыя,
Розныя,
          як лёс.
Хай будзе шчаслівы
Кожны гай шумлівы
З залатымі
              пацеркамі
Прадсвітальных рос...

* * *

І я тут пасадзіла саджанец!
Каб падалі гранаты
З яблыні,
Каб хрумсталі дзеці
Яблыкі,
І ў гняздзе з мяккага пуху
Жаўтароцік пухматы спаў,
Каб снілася неба яму
І зоры-рамонкі нізка
Спявалі яму калыханку
Пра воблакі і пра сонца,
Каб гэтая добрая яблыня,
У якой ён жыве за пазухай,
Пацішу яго калыхала
І вартавала сон;
А не для таго,
Каб ворагі
Спалілі яе з хацінаю
І з крыкам тваім жахлівым,
Сыночак мой!

## БЯССМЕРЦЕ

Памяці *Ю. Гагарына*

Няпраўда!
Не веру!
Не чапайце мяне,
Шчытна закрыйце дзверы...
Не ве-е-еру-у!

Не мігайце, не трэба,
Не сляпіце мне вочы, зоры.
Чаму вы пакінулі неба?
Яно пачарнела ад гора!

Не працягвай да мяне
Сваіх старэчых далоняў, цемра!
Не суцяшай!
Дарэмна!

Хіба вы бываеце горкімі,
Зоры?
Чаму вы соллю плывеце па твары?!
Слухайце,
Вякоў Сузор'і,
Голас Гагарына!

Ён вам сагрэе далоні
І твары асвеціць усмешкай.
Вякі сівыя з бяздоння
Касмічнаю выведзе сцежкай.

Запаліць зару ў небе чорным, —
І зноў яно светлым стане...
На вашых сцежках, Сузор'і,
Сустрэнем яшчэ світанне!

## ТАНЕЦ

Зноў растаў над рэчкаю туман,
Зноў бягу я ўпрыскач да ракі.
Мост калышацца, бы гнуткі стан
У дзяўчо па імю Мітуккі.

І нібы зліліся разам танцы:
Наш — маланкамі бялюткіх пят —
І кубінскі — ззяннем шоўку плаццяў,
Перазвонам кольцаў у дзяўчат.

Гэты звон!..
Кубінка танцавала,
А над Кубай: «Быць альбо не быць!»
...А я мост і поле прыгадала,
Дзе калоссе золатам звініць.

## ЦЯГНІКІ ЎСЁ БЯГУЦЬ...

Я бягу,
я бягу
На гудок цягніка
Праз туман
і смугу,
Каб надзею спаткаць.

Мне мурог
дыванам
Сцежку стаў высцілаць,
Буйны дождж
з перуном
Ногі стаў абмываць.

Я бягу,
я бягу
На прыпынак малы
Праз палі,
праз гаі
Птушкай — цераз бары.

Я лячу — а чаму?—
На гудок цягніка.

Мо таму,
мо таму,
Каб дзяцінства спаткаць?

Бо яно
ад мяне
Уцякло з цягніком...
Іншы раз прамільгне
Хлапчуком-сябруком...

Цягнікі ўсё бягуць
Ад гадоў,
ад надзей.
І чым далей іх пуць —
Тым да стрэчы бліжэй!

## МАЯ БЕЛАРУСЬ

Рамонкай белаю
Цвіці, зямля!
Суніцы спелыя —
Беларусь мая!

Дзяўчом басаногім
У прыполіку
Цябе, нямоглая,
Нясу я з Воленкі!

Лясное рэха —
Беларусь мая!
Дзяўчынка-неслух —
Дачка твая...

Мычаць каровы...
Мой крык ахрып...
На лоб альховы
Лісток прыліп...

## ШЧАСЦЕ

Каля Рэчыцы
Нафта рэчкаю,
А над Рэчыцай —
Безліч зорак!
Тут Шлях Нафтавы
Як Шлях Млечны,
Назвы новыя,
Новы горад.

Беларусь мая,
Песня весняя,
Не пазнаць цябе,
Сінявокая!
Нашы мары ты
Сёння здзейсніла...
Узлятай вышэй
Ясным сокалам!

* * *

Бывае мудрай прастата...
Пасеяў хлеб араты.
Ступаў ён цяжка, і пята
Праклала след да хаты.

Той след сцяблінкамі прарос.
Дасталася маленькім:
То холадам душыў мароз,
То голадам — зямелька.

Але змагалася, жыло
Сцяблінак сэрца — зерне.
Рука людская і дабро —
Сябры заўжды надзейныя.

З-пад снегу парасткі вясной
Закаласілі жытам...
І плыў далёка іх настой,
У каласы наліты.

3 Заказ 725

## МОЙ ВЕРШ

Напісаць хацела пра вайну,
Ды дзіця спрасоння засмяялася!
Выйшаў верш пра шчасце і вясну,
Хоць і восень на двары трымалася.

Напісаць хацела пра бяду,
Ад якой яшчэ балела рана...
Кукарэкнуў певень у садку —
І у вершы задыміўся ранак.

Напісаць хацелася пра зло,
Ды сястрычка, на калені ўзлезшы,
Прытуліла да ілба далонь —
Дабрата з'явілася у вершы...

* * *

Вялі мяне сосны
У свае харомы,
У свае палацы
З снегу ды іголак.
І да долу слалі
Дывановы россып,
Толькі пад нагамі
Хруст. Прачнуўся золак.

Напаілі свежым
Снежаньскім паветрам,—
Хоць купайся ў снезе,
У паветры гэтым.
А чыесьці вусны —
Ой, тут не да смеху!—
Пасыпаны першым
Прамяністым снегам.

## О, Я ВЕДАЮ...

О, я ведаю,
Я шчаслівая,
Бо кахаю цябе
Адна...
Хай жа будзе
Мядовай ніва,
Што ўзрасціла
Цябе яна...

О, я ведаю —
Я прыгожая,
І кахаю цябе,
Мой свет!
Хай жа будзе
Мядовым ложак
І заўсёды мядовым —
свет!

## ХАЧУ БЫЦЬ...

*Хачу быць гаспадыняю тваёй.*
А хочаш ты, дык стану я рабыняй!
Магу яшчэ быць самаю святой
І жаркаю, да сораму, рабінай!

Але калі б я і была святой —
Я б грэшнікам цябе зрабіла,
Каб тайна між табой і мной, нямой,
Была, нібы зарослая магіла.

Але, калі б я грэшніцай была,
Цябе б святым апосталам зрабіла,
І доўга б манахіняю жыла,
І, як у бога, літасці прасіла б!

Але ні грэшніцаю, ні святой
Быць не да твару. Я ўсяго дзяўчына...
Хачу быць гаспадыняю тваёй,
Кахання нашага вялікага рабыняй!

* * *

Вечары мае маладзіковыя!
Як пялёстак, месяц малады...
Дзе, скажыце, адшукаць мне словы,
Што мяне пазбавілі б бяды?

Дзе, скажыце, адшукаць мне сэрца,
Побач біцца каб з маім магло?
Я не шчасця ў вас прашу, паверце,
Шчасце маё хваляю знясло.

У завею, слоту нават хвоі
Сустракаюць ноч сваю без сну...
Ты чаму, сустрэўшыся са мною,
Нават галавою не кіўнуў?..

## ДЗЕ ЦЯЧЭ, СПЯВАЕ РЭЧКА...

Дзе цячэ, спявае рэчка —
Хлопец ходзіць закаханы.
Там за рэчкай спее грэчка,
Пах разносіцца духмяны.

Абярнуся я травою,
Высокай, пяшчотнай,
І укрыю з галавою
Юнака употай.

Абярнуся цёплым ветрам,
Вусны пацалую...
Ты ўсяму пакажаш свету
Мяне маладую!

## МЯНЕ ЧАКАЮЦЬ...

Я засынаю...
Пяюць мне калыханку зоры...
Мяне чакаюць за небасхілам:
Конь мой — вецер,
Зямляк і неразлучны сябар — сонца,
Пытальнік доўгі жыцця — дарога,
Рукзак, напакаваны днямі доўгімі,
Кароткімі гадамі.
Мяне чакаюць —
Бяссонніца
і
Вечны сон.

## РОЗДУМ

Нема вачыма вокнаў
Ноч глядзіць на мяне.
Мне на ляжанцы цёпла,
Нібы у добрым сне.

Рукі пад барадою,
Локці глядзяць убакі...
З цёткай Бяссонніцай зноў я
Крочу к табе напраскі.

Раптам усё зразумееш,
Што без мяне ты — не ты...
Раптам мяне абнадзеіш —
Працягнеш руку з нематы.

Певень прачнуўся на седале,
Ранак азваўся яму.
Хто ж замяце начны след мой?
Я папрашу зіму.

Выйду я, выйду на ганак —
Следа няма ўжо нідзе!
Мы з табой — ноч і ранак.
Нас раздзяляе дзень.

* * *

Ляснуў гром так, што зморана
Вярба на калені ўпала,
Падняўшы спадніцу да сораму...
А грому было яшчэ мала...

А потым лівень бяззубы
Прайшоў, штосьці ў нос шапялявячы...
І вечар вясёлку над дубам
Павесіў сушыцца нанач.

## НЕ ШКАДУЙЦЕ

Дужым у жыцці не спачуваюць,
Слабым малавата сіл даюць.
Дужыя заўсёды ў смерці з краю,
Слабыя даўжэй за іх жывуць.

Не шкадуйце і мяне — я выжыву!
Крэпкай маладзіцай ці бабуляю,
Маці вернай, дзецьмі не пакрыўджанай,—
Дужай ці слабой, але прачулаю.

Не шкадуйце вы мяне — я выжыву!
Жонкаю няверная ці любоўніцай,
Ці, як людзі кажуць, трэцяй лішняю
У жыцці даўгім, нібы бяссонніца...

* * *

Стаіць бярозка,
Краса зямная,
Глядзіць
у люстра
Маіх акон.
А недалёка
(Мусіць, кахае!)
Красой
любуецца
Высокі клён.

Зіхціць
зялёная
Пад яркім
сонцам
На белых
плечыках
Яе хусцінка.
Нібы сяброўцы,
У маё аконца
Паціху стукае
Яе галінка.

Сігаюць горда
Над лугам кнігаўкі...
Нідзе цудоўніцы
Няма такой.
А клён
          бярозцы
Свае шле мігаўкі,
А мы па-змоўніцку
Смяёмся з ёй!..

* * *

Абняла бяроза
Саламяны дах.
Да крамяных росаў
Ліст упаў, зачах.

Як ад рук адбіўся —
Ад маці-бярозы —
Ссох сіротка-лісцік
Шчэ на паўдарозе...

## ЛЮБЛЮ

Люблю усмешку цёплую і вочы,
Што ў вочы мне прыветліва глядзяць.
Люблю пахучыя, як ландыш, ночы,
Што ў сне мяне удалячынь імчаць.

Люблю над рэчкай шэрыя туманы,
Што, нібы воблакі, над ёй плывуць;
І нават крык з чароту нечаканы
Люблю я дзікай качкі там пачуць.

Люблю я вернасць чыстую, як кроплі
Гаючага сунічнага дажджу...
Люблю з сябрамі лазіць у каноплі
І лускаць іх, прысеўшы на мяжу.

## БОЛЬ

Белы ліст, нібы белае воблака,
Апусціўся мне на калені.
Па тваім, нібы дождж, касым почырку
Я чытаю твае сумненні.

Не, не трэба цадзіць, як праз сіта,
Боль, што можа ўраз апячы.
Мы таксама не лыкам шыты,
Мы надзенем на боль абручы.

Мы сашчэпім так пальцы, што цені
У смяшлівых вачах замігцяць...
Я смяюся.
Трымаюць калені
Белы ліст і... не хочуць трымаць!

* * *

У водах шэрай рачулкі
З імем блізкім і гулкім
Ціха палошча вецер
Лазы чырвонае вецце.

Гушкае песню на хвалях.
Ёй адклікаюцца далі,
Звоняць празрыстыя росы,
І падпяваюць бярозы.

Вечар паволі ракою
Плыве над маёй Церухою,
Звесіўшы ў воды з неба
Туман, як вялізны невад...

## ПРЫХОДЗЬ

Каб жа мы з табою паспрачаліся?!
Дык жа не, такога не было.
І чаму так крыўдна атрымалася,
І адкуль зноў гэтакае зло?

Як малы, злуешся на мяне ты,
Толькі што не плачаш гэтак гучна.
Думаеш, змагу я без цябе тут?
Думаеш, хачу цябе я мучыць?

Я табой напоўнена, як поўня.
І калі б не стала ў небе сонца —
Ты б свяцілам быў маім галоўным
І надзеяй дзён маіх бясконцых...

Дык хутчэй прыходзь, чаго чакаеш?
Будзе лепей так абоім нам:
Ключ ад радасці ў мяне, ты знаеш,
Ад кахання ключ — адзін ты сам!

* * *

Каціўся яблык па роснай траве...
Ты мяне любіш, а я цябе — не!
Прэч ідзі, прэч!
Адразу гара з плеч...

Каціласся торба з высокай гары,
А ў той торбе што хочаш — бяры.
Хлеб, соль, пшаніца...
Ты не хочаш на мне ажаніцца?

Каціўся яблык
Ружовага колеру...
Ты мяне любіш,
А я цябе болей...

* * *

Дзе вы, дзявочыя вёсны?
Юнак яснавокі, рослы
Забраў у чужую вёску,
Павёз да каханай
Наўпросткі,
За гай,
За шырокае поле,
Пакінуўшы толькі боль мне...

## СВІТАННЕ

У прывідным марыве
Зоры хаваюцца,—
То з новымі марамі
Дзень прачынаецца.

Спаткалася ночка
У зорнай спадніцы
З паглядам дзявочым
Зары-маладзіцы.

Юнак белакосы —
Дзень — ранкам ішоў,
Цнатлівасць у росах
Світальных знайшоў.

І ноч пабялела,
Стаілася ў цішы:
Яна зразумела —
Была трэцяй лішняй.

* * *

Акунуся па пояс у росы,
Распусціўшы русалкаю косы.
Страсяну кроплі неба з бярозкі,—
Усміхнуцца дрыготкія слёзкі.

Наваколле вясёлкаю свеціцца,
Быццам сонцу самому равесніца...
Паляцела б, здаецца, да месяца:
Так сягоння мне ў шчасце верыцца!

## ЗМЕСТ

На белорусском языке

Нина Никифоровна Шклярова
*Моя деревня*

Издательство «Беларусь» Государственного комитета Совета Министров Белорусской ССР по печати. Минск, Ленинский проспект, 79.

Рэдактар *М.* Ваданосаў. Мастак *С.* Кавалёў. Мастацкі рэдактар *М.* Шырокаў. Тэхнічны рэдактар *Я.* Шляшынская. Карэктар *Я.* Харко.

АТ 09834. Здадзена ў набор 14/IV 1971 г. Падп. да друку 7/VII 1971 г. Тыраж 3500 экз. Фармат $60 \times 84^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 1,64. Уч.-выд. арк. 1,14. Зак. 725. Цана 12 кап.

Друкарня «Чырвоны друкар» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў Беларускай ССР па друку. Мінск, зав. Калініна, 12.